 



# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

Н 32 (806) ГОД XVI БЕЛАСТОК 8 ЖНІЎНЯ 1971 г. ЦАНА 60 гр.



* * *

Ты мне патрэбна, як жыццё,
як сонца,
Я птушкай вылятаю за сяло,
Дзе зноў вясна па вершалінах
сонных
Шчасліва б'е буслішыным крылом.

І я цяпер — як жвавая сініца.
Вясна!.. Вясна!.. Гамоняць капяжы.
Дзень добры, булькатлівая крыніца,
Давай уперагонкі пабяжым...

Люблю цябе, адзіную, да скону,
Вясновая, вясковая зямля,
Як апранаеш свой убор зялёны,
Як вербы ў неба цэляцца здаля...

*Яўгенія Янішчыц*



## З ДАЦЭНТАМ А. ВЫРОБІШАМ ПРА БЕЛАСТОЦКІХ ГУМАНІСТАЎ



*Дац. др Андрэй Выробіш — дэкан гуманітарнага факультэта ВСН у Беластоку. Гісторык. Спецыяліст па гісторыі сярэдневякоўя.*

Першая беластоцкая гуманітарная вышэйшая ўстанова Вышэйшая настаўніцкая школа (Філіял Варшаўскага універсітэта) выдала першыя дыпломы. На гуманітарным аддзяленні ВСН дыпломы такія атрымалі 52 паланісты (з гісторыяй) і 21 русіст.

Пад канец развітальнай урачыстасці, калі госці раз'ехаліся, а бестурботныя галасы нядаўніх студэнтаў, а. цяпер настаўнікаў, даспеўвалі песні, мы папрасілі дэкана Андрэя Выробіша на размову для «Нівы».

— Вашы выпускнікі ў большасці пойдуць працаваць на вёску, бо там найбольш патрабуюць кваліфікаваных настаўнікаў.

— Дакладна яшчэ не ведаем, але 50 працэнтаў нашых выпускнікоў напэўна будзе працаваць на вёсцы.

— Школа, несумненна, захоча падтрымліваць кантакты з выпускнікамі?

— Так, зразумела. Добра было б, каб яны самі звярталіся да нас з рознымі справамі, напрыклад, у справах навучання II ступені, ці іншых.

— Будзе навучанне II ступені?

— У гэтым годзе навучанне II ступені, гэта значыць, магістэрская студыя, ужо ўводзіцца на педагогіцы. Думаю, што і на іншых аддзяленнях будзе. Калі шырока гаворым пра вышэйшы ўзровень нашай асветы і таксама вышэйшай адукацыі, дык адукацыя настаўніка не можа закончыцца дыпломам ВСН I ступені.

— Якія формы кантактаў выпускнікоў са школай вы назавеце?

— Удзел у семінарах, навуковых пасяджэннях, вельмі добра было б, каб яны прымалі ўдзел у нашых навуковых семінарах, якія будзем весці ў наступныя гады. У Варшаўскім універсітэце нават людзі з доктарскімі дыпломамі ўдзельнічаюць у семінарах.

— А цяпер крыху пра завочнае навучанне.

—Калі ласка. У гэтым годзе ўводзім на нашай ВСН завочную вучобу на гуманітарным факультэце — на аддзяленнях гісторыі, польскай мовы, рускай мовы. Цяжка яшчэ гаварыць пра завочных кандыдатаў, бо толькі што прайшлі экзамены.

— Колькі прынята на завочную вучобу?

— На польскую мову 59 чалавек, рускую — 20, гісторыю — 23. Завочная вучоба выключна для абсальвентаў СН-аў і практыкуючых настаўнікаў. Кандыдаты абавязаны пры экзамене добра арыентавацца ў праграме СН-аў.

— Па сацыяльнаму складу, якія гэта людзі?

— 70 працэнтаў — з сялян і рабочых, 90 працэнтаў — настаўнікі з вёсак. Усе лікі датычаць сёлетняга прыёму.

— Сістэма завочнага навучання?

— Будзе летняя сесія, потым па-два-тры дні асенняя, зімовая ў час канікул і вясенняя.

— Ваш факультэт пачаў і далей вядзе «Гуманістычныя сустрэчы».

— Гэта адна з форм супрацоўніцтва школы і асяроддзя, зацікаўлення асяроддзя і школай і навукай. Адзін раз у месяц праводзяцца такія сустрэчы ў будынку на Міцкевіча 1. Запрашаем мы на іх вялікіх у навуцы, з вядомымі прозвішчамі людзей. А хачу сказаць, што слухачы з горада не прыходзяць. Гэта сведчыць аб тым, што не цікавяцца. Няма ахвоты слухаць слаўнага вучонага, няма аўтарытэту вучонага. Усе гавораць аб занядбаннях на Беласточчыне, але як нешта пачынаеш рабіць, то няма зацікаўлення.

— Хто з вучоных удзельнічаў у беластоцкіх гуманістычных сустрэчах?

— Былі праф. Стэфан Кеневіч, праф. Яніна Кульчыцка-Салёні, дац. Станіслаў Гжэшчук, праф. Вітальд Гензель, праф. Аляксандр Гейштар, праф. Станіслаў Скарупка, праф. Анатоль Міровіч, дац. Ежы Бардзіша.

— Вядома мне, што вяліся размовы на тэму адкрыцця завочнага аддзялення пры Беластоцкай ВСН беларускай філалогіі. Як вы бачыце гэтую справу?

Працяг на стар. 4



## АКТЫЎНЫЯ Ў БЕЛАСТОЦКІМ ПАВЕЦЕ

Спорт у Беластоцкім павеце мае сваю 25-гадовую традыцыю. Першыя ЛЗС былі заснаваны ў Гарадку (арганізаваў яго Юрка Налівайка), у Харошчы (Генрык Дамброўскі) і ў Заблудове (Альфонс Фрайда). Ужо 25 гадоў нязменна звязаны з дзейнасцю ў напрамку развіцця і прапагандавання спорту Чэслаў Ляўко (старшыня павятовага аб'яднання ЛЗС у Беластоку) і Яўген Мазэк з Беластока. Зараз у Беластоцкім павеце дзейнічае 89 гурткоў ЛЗС, якія згуртоўваюць у сваіх радах 4054 членаў. Актыўна дзейнічае тут 59 футбольных каманд, 64 валейбольныя і 3 каманды па баскетболу. Найлепш працуе гурток ЛЗС у Завадах. Сваю дзейнасць пачаў у 1955 годзе. Нядаўна завадаўскія стральцы з лука, якія займаюцца пад кіраўніцтвам інструктара Веслава Казімеровіча, атрымалі першае месца на ваяводскай алімпіядзе. Добрымі поспехамі могуць пахваліцца таксама дзве завадаўскія футбольныя каманды. Варта адзначыць і такі факт, што ЛЗС-аўцы з Завадаў пад кіраўніцтвам старшыні гуртка пабудавалі ў сябе грамадскім чынам спартыўную пляцоўку.

Актыўным гуртком з'яўляецца таксама гурток ЛЗС у Дайлідах Гурных, які ўзначальвае Ян Шустко. Гурток налічвае 97 чалавек, у тым ліку 27 жанчын. Дайлідская футбольная каманда выступае цяпер у А-класе.

Адна з дайлідскіх спартсменак Аня Бранская (вучаніца мясцовага сельскагаспадарчага тэхнікума) мае добрыя вынікі па скоках у вышыню і зараз выступае ў II-ліговай камандзе «Падляшша».

Актыўным у грамадскіх чынах з'яўляецца гурток ЛЗС, які дзейнічае пры водна-меліярацыйным тэхнікуме ў Беластоку. Члены гэтага гуртка пабудавалі ля школы некалькі спартыўных пляцовак (у тым ліку пляцоўку да баскетбола) і 100-метровую бежню. Зрабілі яны таксама лавачкі і залажылі электрычнае абсталяванне над спартыўнымі пляцоўкамі. Грамадскіх чынаў выканалі яны на суму паўмільёна злотых.

Варта адзначыць пры тым, што Галоўнае праўленне ЛЗС у Варшаве высока ацаніла грамадскую працу маладых ЛЗС-аўцаў і ў якасці ўзнагароды прызнала ім 5 тысяч злотых.

У пачатку гэтага года арганізаваны гурткі ЛЗС у Лубніках (узначаліў яго Рышард Міхайлоўскі) і ў Багданках (узначальвае яго Адам Капцеўскі). Гурток ЛЗС у Лубніках — 25 асоб. Гурткі гэтыя актыўна займаюцца футболам і грамадскімі працамі ў сваім асяроддзі.

Павятовае аб'яднанне ЛЗС, як праінфармаваў мяне старшы інструктар Мар'ян Капіца, арганізавала нядаўна матацыклетны рэйд з Беластока ў Просткі і ў канцы жніўня (27—28.VIII) арганізуе рэйд з Беластока ў Ганёндз.

У летнія месяцы адбудуцца спартакіяды ў грамадах. Прымаць удзел у іх будуць валейбольныя і футбольныя каманды. 18 ліпеня г.г. арганізаваны ў грамадзе Казінцы матацыклетныя спаборніцтвы на «Залатую каску».

Мой субяседнік, Мар'ян Капіца, прасіў адзначыць і той факт, што ЛЗС-аўскія каманды не змаглі б дабіцца здавальняючых поспехаў без актыўнай дапамогі з боку ГС-аў у Харошчы, Васількове, Гарадку і Тыкаціне. Усе гэтыя ГС-ы прыходзяць з грашовай дапамогай са сваёй акругі, а таксама даюць свае сродкі транспарту для перавозу спартыўных каманд на розыгрышы.

*Янка Цялушэцкі*

 

## ◇ Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі



## СВЕТ

### XXV СЕСІЯ СЭУ

У Бухарэсце закончылася XXV сесія Савета Эканамічнай Узаемадапамогі. У рабоце сесіі прымалі ўдзел дэлегацыі Балгарыі, Венгрыі, ГДР, Манголіі, Польшчы, Румыніі, Савецкага Саюза і Чэхаславакіі. На чале польскай дэлегацыі стаяў Старшыня Савета Міністраў П. Ярашэвіч.

У рабоце сесіі прымала таксама ўдзел дэлегацыя Югаславіі.

Кіраўнікі сацыялістычных урадаў — удзельнікаў СЭУ творча прадыскутавалі і аднамысна прынялі комплексную праграму далейшага паглыблення і ўдасканальвання супрацоўніцтва, а таксама гаспадарчай інтэграцыі паміж краінамі — членамі СЭУ.

### РЭПРЭСІІ Ў СУДАНЕ

З Судана паступаюць трывожныя паведамленні, якія сведчаць аб масавых арыштах камуністаў і іншых суданскіх патрыётаў. Арганізуюцца паўсюдныя аблавы і вобыскі з мэтай выяўлення і арышту камуністаў і іншых дэмакратаў па абвінавачанню іх усіх у дачыненні да руху 19 ліпеня. Міністр унутраных спраў Судана звярнуўся да насельніцтва краіны з патрабаваннем аб выдачы кіраўнікоў Суданскай кампартыі і ўсіх камуністаў. Ён папярэдзіў, што кожнаму, хто будзе скрываць іх, пагражае суровае пакаранне.

Для расправы з патрыётамі створаны ваенныя трыбуналы, якія выносяць суровыя прыгаворы сотням ні ў чым не вінаватых людзей. Шэраг камуністаў было прыгаворана да пакарання смерцю. Некаторыя смяротныя прыгаворы прыведзены ўжо ў выкананне. Пакараны ўжо смерцю вядомы дзеяч міжнароднага камуністычнага рабочага і нацыянальна-вызваленчага руху Генеральны сакратар ЦК Суданскай кампартыі Абдэль Халек Махджуб і генеральны сакратар федэрацыі рабочых прафсаюзаў Судана віцэ-старшыня Сусветнай федэрацыі прафсаюзаў лаўрэат Міжнароднай ленінскай прэміі «За ўмацаванне міру паміж народамі» Шафія Ахмед Аш-Шэйх.

У апошняй хвіліне мы даведаліся, што генерал Німейры развязаў суданскія прафсаюзы.

### ПАПРАЎКА ДА КАНСТЫТУЦЫІ

Прэзідэнт Ніксан замацаваў сваім подпісам папраўку да Канстытуцыі ЗША, якая ўпершыню ў гісторыі краіны дае права голасу юнакам і дзяўчатам ва ўзросце 18 гадоў. Да гэтага часу ў ЗША, акрамя штатаў Джорджыя, Кентукі і Гаваі, правам голасу на выбарах карысталіся толькі асобы, не маладзейшыя за 21 год. Новы закон дае права голасу дадаткова 11,2 мільёнам амерыканцаў ва ўзросце ад 18 да 20 гадоў.

### ПАВЫШАНЫ ЦЭНЫ

У Ізраілі павышаны цэны на нафту і нафтапрадукты. Цэны на бензін павышаны на 11 працэнтаў, на газ у балонах для хатняга карыстання — на 25 працэнтаў.

### ЗЛАЧЫНСТВЫ

У Бельгіі ў 1970 годзе зарэгістравана 44.833 злачынствы, гэта на 47 працэнтаў больш, чым у 1965 годзе. (ак)



## БССР

### ВІЗІТ ДРУЖБЫ

7 дзён госцем Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі была дэлегацыя Галоўнага праўлення Таварыства польска-савецкай дружбы на чале з загадчыкам аддзела Галоўнага камітэта Аб'яднанага камітэта людовага стронніцтва Мечыславам Грабкам і старшым навуковым супрацоўнікам Варшаўскага універсітэта Тадэвушам Будкевічам.

Дэлегацыя прыняла ўдзел у сходзе прадстаўнікоў працоўных Мінска, прысвечаным 27 гадавіне Польскай Народнай Рэспублікі, пабывала на мемарыяльным комплексе «Хатынь», у Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай айчыннай вайны.

У Магілёве госці наведалі камбінаты сінтэтычнага штучнага валакна, а таксама музей савецка-польскай баявой садружнасці ў вёсцы Леніна.

Польская дэлегацыя пазнаёмілася з работай аддзялення Таварыства савецка-польскай дружбы на Мінскім трактарным заводзе, наведала музей народнага паэта БССР Янкі Купалы, калгас «Верны шлях» Івянецкага раёна і іншыя месцы.

### ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

Як паведамляе Цэнтральнае статыстычнае ўпраўленне пры Савеце Міністраў Беларускай ССР, план першага паўгоддзя 1971 года па рэалізацыі прамысловай прадукцыі выкананы ў Беларусі на 104 працэнты. Перавыканана план выпуску большасці важнейшых відаў вырабаў. У параўнанні з першым паўгоддзем мінулага года аб'ём прамысловай вытворчасці павялічыўся на 13 працэнтаў. Прадукцыйнасць працы ўзрасла на 8 працэнтаў.

### СПРАВЫ КАЛГАСНІКАЎ

Адбылося пасяджэнне рэспубліканскага Савета калгасаў. Разгледжаны і адобраны праект Палажэння аб Савеце калгасаў Беларускай ССР. У гэтым дакуменце вызначаны парадак утварэння Савета калгасаў, яго функцыі, прававое становішча і характар узаемаадносін з сельскагаспадарчымі органамі, а таксама арганізацыямі і ведамствамі, якія маюць адносіны да калгаснай вытворчасці.

Савет адобрыў планы сацыяльна-эканамічнага развіцця калгаса «Прагрэс» Гродзенскага раёна і рэкамендаваў праўленням калгасаў на яго вопыту распрацаваць планы сацыяльна-эканамічнага развіцця сваіх гаспадарак.

Абмеркаваны былі вынікі работы калгасаў за мінулую пяцігодку і асобна за 1970 год і задачы па паспяховаму завяршэнню першага года новай пяцігодкі.

### СВЯТА ПЕСНІ

З пяці раёнаў Палесся з'ехаліся ў зялёны гарадок Нароўлю ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці, каб прадэманстраваць сваё песеннае майстэрства. Яшчэ ніколі Нароўля не бачыла такога парада. Людзі былі апрануты ў беларускую нацыянальную вопратку: вышываныя сарочкі, саматканыя андаракі, рознакаляровыя фартухі. (вр)



## ПОЛЬШЧА

### Э. ГЕРЭК СЯРОД ЖНЯЦОЎ

I сакратар ЦК ПАРП Эдвард Герэк правёў сустрэчу са жняцамі з Велькапольскі. Цікавіўся ён поспехамі і клопатамі сялян. Апрача таго, Э. Герэк сустрэўся з членамі ПГР Крулевец, кааператыва Мяжэва, ПГР Гроткава і камбіната Жыдова.

На заканчэнне візіта на Велькапольскай зямлі Э. Герэк сардэчна падзякаваў сялянам за іх цяжкую і ахвярную працу і за паспяховую рэалізацыю абавязацельстваў па павелічэнню прадукцыі збожжавых культур, мяса і малака.

### НОВАЯ ПАСТАНОВА

Савет Міністраў прыняў новую пастанову адносна разгледжвання і ўладжвання скарг і прапаноў з боку грамадзян. Прынятая пастанова папраўіць дзейнасць органаў адміністрацыі і гаспадаркі, а таксама будзе садзейнічаць змяншэнню ўсякага роду злоўжыванняў. У прынятай пастанове акрэслены правілы аб'ектыўнага і тэрміновага разгледжвання і ўладжвання скарг. Кожны адказ на скаргу або прапанову будзе пацвярджацца подпісам адказнага працаўніка той ці іншай установы.

Пастанова ўваходзіць у жыццё з днём 1 верасня г.г.

### ЛЕПШАЕ ЗАБЕСПЯЧЭННЕ

За 6 месяцаў г.г. прададзена значна больш хатняй мэблі, чымсьці ў аналагічным перыядзе мінулага года. Пасадзейнічала гэтаму між іншым лепшая якасць нашых мэбляў, зніжэнне цэн на менш атракцыйную мэблю, а таксама імпарт замежнай мэблі з Чэхаславакіі, ГДР, Югаславіі і СССР.

Колькасць імпартнай мэблі з-за мяжы будзе ў гэтым годзе двойчы большая, чымсьці ў мінулым годзе. Нашую мэблю ахвотна купляе Нарвегія, Швецыя, ЗША і іншыя краіны. У гэтым годзе пачалі купляць нашую мэблю Японія і Іспанія.

### ЦЭМЕНТАВЫ ЗАВОД

У сувязі з вялікім запатрабаваннем будаўніцтва на цэмент пачалася пабудова цэментавага завода-гіганта ў Малагошчы на Келеччыне.

Завод будзе прадукаваць 1,7 мільёнаў тон цэменту і будзе аддадзены ў карыстанне ў 1975 годзе.

### ПЯЦЕРАНЯТЫ

Гданьскія пяцераняты знаходзяцца зараз пад апекай бацькоў Леакадзіі і Браніслава Рыхтэраў. Наглядаць за пяцеранятамі будзе і далей Інстытут педыятрыі медыцынскай акадэміі і аддзел здароўя Прэзідыума ВРН у Гданьску.

### 27 ГАДАВІНА ВАРШАЎСКАГА ПАЎСТАННЯ

31 ліпеня г.г. грамадзяне сталіцы ўшанавалі памяць загінуўшых герояў паўстання — воінаў і цывільных грамадзян, якія змагаліся на барыкадах горада.

Салдаты польскай арміі, гарцэры, ветэраны баёў сталі на ганаровыя варты на месцах барацьбы, расстрэлаў паўстанцаў. На вайсковых могілках, а таксама ля Помніка Герояў Варшавы былі пакладзены кветкі і запалены факелы. (яц)



## ВАЯВОДСТВА

### ПЛЕНУМ ВК ПАРТЫІ

30 ліпеня ў Беластоку адбылося пленарнае пасяджэнне Ваяводскага камітэта партыі на тэму паляпшэння сацыяльна-бытавых умоў працоўных. На пасяджэнне былі запрошаны прадстаўнікі партыйных арганізацый прадпрыемстваў, прафсаюзныя дзеячы. Прысутнічала на пленуме сакратар ЦРЗЗ Ірэна Срочынская. Вёў пасяджэнне I сакратар ВК партыі тав. А. Лашэвіч.

У час даклада, а затым і дыскусіі адзначалася, што за апошнія месяцы было нямала зроблена для паляпшэння сацыяльных умоў на прадпрыемствах. Многія прадпрыемствы арганізавалі для сваіх рабочых новыя сталоўкі, кіёскі з харчавымі прадуктамі, палепшыліся санітарныя ўмовы. У гэтым годзе беластоцкія прадпрыемствы прызначылі на гэтую мэту са сваіх фондаў 45 млн. зл., ды яшчэ значную частку грошай атрымалі ад сваіх цэнтральных бранжавых улад.

Вялікую ўвагу звярнула на сябе справа паляпшэння прамысловай службы здароўя. Гаварылася аб павелічэнні колькасці медыцынскіх работнікаў на прадпрыемствах, аб стварэнні міжфабрычных амбулаторый і інш. Усімі гэтымі справамі займаюцца цяпер Ваяводская камісія прафсаюзаў і прэзідыум ВРН.

Абмяркоўваліся таксама на пленуме праблемы санаторнага лячэння, жыллёвага будаўніцтва, апекі над дзяцьмі, адпачынку пасля працы і іншымі.

Пленум прыняў пастанову, якая абавязвае ўсе партарганізацыі і гаспадарчую адміністрацыю сістэматычна выконваць прапановы, якія былі пададзены ў лісце Сакратарыяту ЦК у першыя дні студзеня гэтага года.

### ЗАКЛІК ДА ПАЖАРНІКАЎ

Ваяводскае праўленне Саюза пажарнай аховы звярнулася да ўсіх пажарных каманд, да праўленняў пажарнай аховы, да начальнікаў каманд з заклікам прыкласці ўсе свае намаганні, каб не дапускаць да пажараў.

У закліку гаворыцца аб тым, што кожная каманда павінна ацаніць небяспеку пажару ў сваёй ваколіцы і зрабіць адпаведныя крокі, каб яе прадухіліць. Неабходна быць у поўнай гатоўнасці і загадзя клапаціцца аб запасах вады. Даўгатрывалая засуха робіць пажары вельмі небяспечнымі.

### БОЛЬШ УВАГІ ДЗЕЦЯМ

У мінулым тыдні здарылася шмат няшчасных выпадкаў сярод дзяцей. Хоць работы ў полі асабліва многа, нельга пакідаць малых дзяцей без апекі. Вось толькі некалькі прыкладаў: у вёсцы Лазова (Дуброўскі павет) у калодзежы ўтапіўся паўтарагадовы хлапчук; у Беластоку ў сажалцы ўтапіўся васьмігадовы хлопец; некалькі падросткаў загінула, купаючыся ў забароненых месцах. (яч)




**Niedziela, 8 sierpnia**

8.30 Program dnia. 8.35 „Przypominamy, radzimy”. 9.00 Dla młodych widzów: „Sport i zabawa” — program TV NRD. 10.00 „Ślub z przeszkodami” — film fab. USA. 11.40 „Kaname i Yokichi” — film pop. nauk. jap. 12.35 Dziennik. 12.55 „Przemiany”. 13.25 „Zespół regionalny Ziemi Rzeszowskiej”. 14.10 „Sylwetki X Muzy”. 14.35 „W obiektywie”. 15.10 „Debiuty Opole 71”. 16.00 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej o mistrzostwo I Ligi. 16.45 PKF. 17.45 „Pocztówki Warszawskie” („Szlakami zabytków”). 18.15 Studio Współczesne: T. Różewicz — „Grupa Laokoona”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Ogień na oceanie” — film fab. radz. 21.15 „Bar pod Gwiazdami” — program Estrady Rzeszowskiej. 21.45 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek, 9 sierpnia**

9.00 Fizyka dla nauczycieli. 10.00 Przerwa. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Opowieści o zwierzętach”. 17.30 „Echo stadionu”. 18.00 Kino Filmów Animowanych. 18.30 „Singapur” — film dok. węg. 18.45 „Eureka”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Teatr TV: K. Dickens — „Przygoda w Manor Farm”. 21.10 „Tok sprawy” — rep. K. Przysiedzkiego. 21.45 „10 razy Sopot” — odc. III (rok 1963—64) wspomnienia o festiwalach sopockich. 22.25 Dziennik.

**Wtorek, 10 sierpnia**

9.00 Fizyka dla nauczycieli. 10.00 „Sposób bycia” — film fab. pol. 11.15 Przerwa. 15.55 Program dnia. 16.00 Transmisja z otwarcia Mistrzostw Europy w lekkoatletyce (Helsinki). 16.30 „List z Majorki” — rep. muzyczny, 16.50 Dziennik. 17.00 „Na warszawskich wydmach”. 17.30 „Nie ma szczęśliwych wysp” — rep. z Ekwadoru. 17.45 Telewizyjny Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Sprawozdanie z Mistrzostw Europy w lekkoatletyce (Helsinki). 21.10 „Sposób bycia” — film fab. pol. 22.25 Dziennik.

**Środa, 11 sierpnia**

9.00 Fizyka dla nauczycieli. 10.00 „Randall i duch Hopkirka” — film ang. 10.50 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 Dla młodych widzów: „Teleferie”. 16.45 Dziennik. 17.00 Sprawozdanie z mistrzostw Europy w lekkoatletyce. 19.00 TV Kurier Warszawski. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Randall i duch Hopkirka” — film ang. 20.55 „Światowid”. 21.40 „Wesele Amora i Psyche” — widowisko do muzyki Marcello di Capua (XVIII w.) 22.15 PKF. 22.25 Dziennik. 22.40 Kronika Mistrzostw Europy w lekkoatletyce.

**Czwartek, 12 sierpnia**

9.00 Fizyka dla nauczycieli. 10.00 Przerwa. 16.40 Program dnia. 16.45 Dziennik. 17.00 Sprawozdanie z Mistrzostw Europy w lekkoatletyce (Helsinki). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Przypominamy, radzimy”. 20.10 Teatr Sensacji: M. Reniak — „Niebezpieczne ścieżki”. 21.40 „Jak zamienić mieszkanie”. 22.10 Dziennik. 22.25 Kronika Mistrzostw Europy w lekkoatletyce.

**Piątek, 13 sierpnia.**

9.00 Fizyka dla nauczycieli. 9.30 Przerwa. 10.00 „Lunatycy” — film fab. pol. 11.25 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 Dla dzieci: „Pora na Telesfora”. 16.45 Dziennik. 17.00 Sprawozdanie z Mistrzostw Europy w lekkoatletyce. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Gertruda” — nowela film. franc. 20.30 „Kraj”. 21.15 „Nokturn” — XXVI Festiwal Chopinowski w Dusznikach. 22.15 Dziennik. 22.30 Kronika Mistrzostw Europy w lekkoatletyce.

**Sobota, 14 sierpnia**

10.00 „Joe Dakota” — film fab. (western). 11.40 Przerwa. 15.10 Program dnia. 15.15 Program tygodnia. 15.35 TV Kurs Rolniczy: „Lato 1971”. 16.10 „Tajemniczy mnich” — film fab. radz. 17.30 Dziennik. 17.45 Sprawozdanie z Mistrzostw Europy w lekkoatletyce. 18.50 „Pegaz”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Joe Dakota” — film fab. (western). 21.35 Dziennik. 21.50 Wiadomości sportowe. Kronika Mistrzostw Europy w lekkoatletyce. 22.20 „Dobrze skrojony frak”.




**Piątek, 6 sierpnia**

8.05 Nowiny. 8.15 Dla uczniów. 8.45 Marozka — film. 10.05 Nowiny. 15.00 Program dnia. 15.15 W gościnie u przyjaciół. 15.50 Panorama nowin. 16.05 Dla uczniów. 16.30 Komunista i czas. 17.00 Pamięć serca. Spektakl. 18.20 Program informacyjny. 20.50 Dalszy ciąg spektaklu. 19.40 „Halo! — talenty my was czekamy”. Koncert. 20.35 Uchwały XXIV Zjazdu KPZR. 21.05 „Nowe przygody Gustawa”. Film. 21.15 Nowiny.

**Sobota, 7 sierpnia**

7.00 Program. 7.05 Gimnastyka. 7.30 Nowiny. 7.45 Koncert. 8.15 „Zdrowie”. Program naukowo-popularny. 8.45 Dla dzieci. 9.15 Koncert. 9.45 Przegląd międzynarodowy. 10.00 Muzyczna szkatułka. 10.15 Spotkanie. 10.35 Ekran dla dzieci. 11.30 Czarująca siła sztuki. 12.40 O twórczości G. Wiarejskiego. 13.00 W świecie zwierząt. 14.10 Program pt. „Poszukiwanie” prowadzi pisarz S. Smirnow. 15.00 Piłka nożna. 17.30 Cyrk. 19.00 Program informacyjny „Czas”. 19.30 Saga rodu Forsytów. 20.25 Kalejdoskop muzyczny. 20.50 Nowiny.

**Niedziela, 8 sierpnia**

7.00 Program. 7.05 Gimnastyka. 7.15 Nowiny. 7.30 Dla dzieci. 9.30 „Dziewczynka i kwiecień”. Spektakl. 11.45 Program dla wojska. 12.15 Przemówienie ministra. 12.30 Telewizyjny film dokumentalny. 12.50 Żarciki rosyjskie. 13.05 Historia muzyczna. Film. 14.25 Teleplakat. 14.40 Warcaby. 15.05 Spotkania muzyczne. 15.40 „Pisarz i życie”. 16.05 „Nasi goście”. Spotkanie z artystami. 16.35 Klub kinopodróżników. 17.40 „Dla was budowlani”. Koncert. 19.00 „Czas”. Program informacyjny. 19.30 Saga rodu Forsytów”. 20.25 Koncert. 21.05 „Ciężkie kilometry”.

# КАБ НЕ ЗАРАСЛІ ПАТЫНАЙ ЧАСУ

Падзеі, якія адбываліся на нашых землях, усё далей адыходзяць у гісторыю. І каб не зараслі яны патынай часу, праводзяцца розныя працы, звязаныя з увекавечаннем гэтых падзей, адбываюцца многія мерапрыемствы. Зразумела, стараемся захоўваць у памяці асабліва тых, хто змагаўся за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне. Старонкі кнігі памяці асабліва багаты падзеямі і людзьмі з часоў апошняй сусветнай вайны і першых дзён пабудовы Народнай Польшчы.

Увекавечванне помнікаў барацьбы і змагання стала адным з пунктаў праграмы дзеяння Саюза польскіх гарцэраў (ЗГП). А ўстановамі, якія створаны для каардынацыі спраў, звязаных з аховай помнікаў, з'яўляюцца камітэты аховы помнікаў барацьбы і пакут.

У мінулым годзе, дзякуючы працы гарцэрства, у краіне адшукана 6 тысяч новых месц змагання і пакут народа. Гарцэры дапамаглі адшукаць 4 тысячы дакументаў з часоў вайны і акупацыі. Камітэты аховы помнікаў разгарнулі апеку над сем'ямі забітых. У Беластоцкім ваяводстве знаходзіцца 318 месц, якія ўвекавечаны помнікамі, абеліскамі, ці мемарыяльнымі дошкамі. Усімі імі апякуюцца ЗГП, войска, ЗБоВіД, паасобныя прадпрыемствы і ўстановы.

У апошні час на першы план высунулася справа арганізавання ізбаў нацыянальнай памяці. У ваяводстве і паветах створаны метадычныя цэнтры гэтых ізбаў. Нядаўна мы пісалі аб адкрыцці такой ізбы ў Райску, а зараз хочацца дадаць, што ў ваяводстве маем іх ужо больш 30-ці і больш чым 100 куточкаў нацыянальнай памяці. Зразумела, што стварэнне ізбы памяці патрабуе асобнага, хаця б маленькага, памяшкання і таму іх колькасць невялікая, тым больш, што ў асноўным існуюць яны пры школах.

Аднак вядома, што цяпер школы становяцца больш прасторнымі (меншая колькасць дзяцей), і варта арганізоўваць больш ізбаў. У многіх школах праводзяцца капітальныя і адаптацыйныя рамонты: ці не варта было б пры гэтай нагодзе памятаць аб маленькім памяшканні на ізбу памяці? З другога боку, здаецца, што надалей недастатковая ўвага звяртаецца на выкарыстанне памяшканняў святліц і клубаў. У гэтых культурных памяшканнях смела маглі б існаваць куточкі нацыянальнай памяці.

Патрэбы ў гэтай галіне вялікія. Вось некаторыя прыклады. Вядомая ў Польшчы асоба генерала Аляксандра Вашкевіча, які нарадзіўся ў Белавежы і сваім імем расславіў нашу зямлю. Але ізбы памяці, прысвечанай гэтаму герою, ў Белавежы яшчэ няма. Вядомая таксама асоба генерала Врублеўскага, правадыра студзеньскага паўстання, ваеннага начальніка Гродзенскага ваяводства (які прабываў у Саколцы), а потым генерала Парыжскай камуны і члена Генеральнага савета І Інтэрнацыянала. Ізбы пра гэтага вялікага сына нашага народа яшчэ не маем у Саколцы. У Белавежы і Саколцы, як прычына, якая не дазваляе арганізаваць ізбы, падаецца малая колькасць матэрыялаў аб гэтых героях. І гэта праўда. Аднак вядома нам, што многія матэрыялы аб Врублеўскім можна здабыць у афіцэрскай школе ў Алесніцы, а аб Вашкевічу — у Піле, дзе школы носяць імя герояў.

Сёлета будуць пабудаваны помнікі загінуўшым на могілках у Бацечках і ў Саколцы. Гайнаўскі камітэт помнікаў змагання і пакут апрацуе турыстычны шлях партызанскай барацьбы ў Белавежскай пушчы. Шлях гэты мае быць цалкам загаспадараны, г.зн. не толькі паказаны месцы, дзе ішлі баі, але маюць быць адбудаваны партызанскія зямлянкі, траншэі, акопы і т.п. І ў гэтым заключаецца цяжкасць. Прадстаўнікі гайнаўскага камітэта ахвотна павіталі б кагосьці, хто мог бы ім параіць, дапамагчы.

Паколькі на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства было знішчана гітлераўцамі аж 110 вёсак, рыхтуецца спецыяльнае выдавецтва, прысвечанае гэтай тэме. Апрача таго, паасобныя камітэты аховы і рады нарадовыя пры дапамозе Акруговага музея рэвалюцыйнага руху выконваюць даведнікі аб ізбах нацыянальнай памяці.

Помнік барацьбітам Беластоцкай зямлі стане ў Беластоку на падрыхтоўваемым пляцы мітынгаў каля стадыёну між праспектам 1 Мая і вуліцай Юравецкай. Помнік барацьбітоў мае быць пабудаваны са складчын насельніцтва і быць сімвалам змагання ўсіх прагрэсіўных сіл.

*А. Лабановіч*

# НОВАЕ НА ПУНКТАХ СКУПКІ

У ваяводстве існуе каля 150 пунктаў скупкі жывёлы. Цяпер у гэтых мясцовасцях праводзяцца рамонты. Не прадбачваецца ў гэтым годзе пабудова новых пунктаў скупкі жывёлы. Будуць гэта аб'екты, цалкам загаспадараныя і з адпаведнымі сацыяльнымі памяшканнямі для гаспадароў і абслугоўваючых.

Новым таксама з'яўляецца ўвядзенне сістэмы рэгулярных паставак жывёлы паасобнымі гаспадарамі. Справа ў тым, каб вызначыць граніцы, колькі жывёлы маюць прыняць у даны дзень паасобныя пункты скупкі. Справай гэтай павінен займацца той на вёсцы, хто займаецца кантрактацыяй. Рэгуляцыя паставак патрэбна на тое, каб мясная прамысловасць мела заўсёды магчымасць забраць скупленую жывёлу ў даны дзень.

Прадбачваецца расшырэнне перахоўвання жывёлы ў гаспадароў. Такая форма прымяняецца тады, калі мясцовая прамысловасць не можа забраць скупленай жывёлы. Перахоўванне жывёлы на базах пунктаў скупкі, найчасцей не дапасаваных да гэтага, прыносіла страты каля 50 мільёнаў зл., у той час, калі жывёла, перахоўваемая ў гаспадароў, не толькі нічога не траціла, але часта і прыбывала на вазе. Цяпер справа выглядае так, што калі жывёла будзе прыбываць на вазе ў гаспадара, дык гаспадар за перахоўванне атрымае адпаведна вышэйшую заплату. Зразумела, што такое перахоўванне жывёлы ў памяшканнях гаспадара можа аплачвацца тады, калі яна застаецца тут прынамсі пяць дзён.

Калі ў аднаго гаспадара або некалькіх гаспадароў збярэцца столькі жывёлы, колькі змяшчаецца ў адным самаходзе, то мясцовая прамысловасць абавязваецца на свой кошт паслаць да тых гаспадароў самаход, плоцячы нармальную цану гаспадару.

Многія змены ўведзены пры класіфікацыі. Крытэрыямі для класіфікацыі свіней і цялят з'яўляецца адпаведная вага. Кароў і коней ацэньвае класіфікатар мясной прамысловасці, які супрацоўнічае са спецыяльна перашколеным рэферэнтам ГС і прадстаўніком сельгасгуртка. Класіфікатары зараз не адказваюць матэрыяльна за вынікі класіфікацыі.

Калі гаспадар не згаджаецца з пададанай класіфікатарам ацэнкай жывёлы, тады гэты спор разглядае на месцы спецыяльна перашколены віцэ-прэзас ГС. Можа ён прызнаць рацыю гаспадару, і класіфікатар абавязаны з гэтым згадзіцца. Але калі нават прэзас не прызнае рацыі гаспадару, дык можа ён звярнуцца да мясной прамысловасці, якая гэтыя справы разгледзіць пасля ўбою. (ал).

## Чыны сакольскай моладзі

Зэтвуэмоўская моладзь Сакольскага павета ўжо выканала грамадскія чыны, вартасць якіх 606 тысяч зл. У рамках акцыі «Вясна чынаў» 18 гурткоў ЗМВ пасадзіла 11 гектараў лесу. Вартасць гэтага чыну ацэнена на 36 тысяч зл. Аднак агульная вартасць чынаў, якія абавязалася выканаць сакольская арганізацыя вясковай моладзі, 650 тыс. зл.

Апрача таго, маладыя гаспадары, члены ЗМВ з Сакольскага павета, з энтузіязмам адклікнуліся на пастановы адносна новай палітыкі партыі і ўрада. Забавязаліся яны павысіць сельскагаспадарчую прадукцыю ў сваіх гаспадарках. Маладыя ў асноўным зоймуцца бяленнем хлявоў, будовай сіласаў, павелічэннем жывёла- і свінагадоўлі, павялічаць колькасць квашонак і кармавых раслін.

У маладзёжным чыне не адстаюць і гарцэры сакольскага гуфца. Разам са старэйшымі калегамі з ЗМВ працавалі яны пры пабудове і рамонце дарог, пры пасадцы лесу. Зухі і гарцэры выканалі тут грамадскія працы, вартасць якіх ацэньваецца на 85 тысяч зл. З гэтага ліку 5,5 тысяч зл. перададзена на пабудову цэнтра здароўя дзіцяці.

(ак)

Пачатак на стар. 1

# З ДАЦЭНТАМ А. ВЫРОБІШАМ пра беластоцкіх гуманістаў

— Арганізоўваць кожнае аддзяленне нельга ўсляпую. Трэба і ў спамянутай вамі справе ведаць — колькі ёсць у нас зацікаўленых новым аддзяленнем. Колькі з іх прыйшло б і колькі мела б працу пасля заканчэння. На гэта кафедра магла б даць адказ. Мы такой інфармацыі не маем. Другая справа, не аплочваецца рабіць групы меншай, чымсьці 30 чалавек, а зноў прымаць кожныя два гады — проста немагчыма. Далей, якая была б магчымасць кадраў? Даяздджаючых — так, але і на месцы трэба мець людзей. Тут не толькі справа ў тым, каб прыняць пастанову. Я баяўся б прымаць пастанову аўтаматычна, без гарантыі рэальных магчымасцей для існавання аддзялення, без кадраў, без бібліятэчнай базы — на крайняй меры пару тысяч тамоў. Усяго гэтага нельга зрабіць адразу. Патрабуе гэта і грашовых выдаткаў і арганізацыі. Даходзіць яшчэ справа апрацавання праграмы навучання. Былі прапановы спалучыць беларускую філалогію з рускай. Такое спалучэнне нічога добрага не дасць, тым больш, што маем дачыненне з двума вельмі блізкімі прадметамі. У нас жа была разам польская мова з гісторыяй на стацыянары, але ў гэтым годзе мы два гэтыя прадметы аддзялілі.

*Вера Леўчук*

*Фота Цаф — Сянько*



*Група першых выпускнікоў Беластоцкай Вышэйшай настаўніцкай школы на ўрачыстым развітанні са школай.*

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# Перыяд Вялікага княства Літоўскага

### ФРАНЦІШАК СКАРЫНА — ЧАСТКА VI

Найбольш характэрныя погляды Скарыны на мараль, на чалавека, на грамадскія адносіны, на асвету і навуку, урэшце на рэлігію вылажаны найглыбей у прадмовах і пасляслоўях да паасобных яго кніжак. Аснова гэтых поглядаў абапіралася на дзесяці запаведзях, якія здаваліся Скарыне дасканалай сістэмай філасофіі чалавека. Чыніць дабро іншым і чакаць дабра ад іншых — вось галоўны дэвіз Скарыны.

Аднак не толькі рэлігійны аспект жыцця чалавека цікавіў Скарыну. У яго прадмовах і пасляслоўях знаходзім цэлы рад разважанняў і на іншыя тэмы. Перш за ўсё варта звярнуць увагу на прапагандаванне Скарыной патрыятычных пачуццяў.

Гаварыў ён, што так як зверы ведаюць пячоры свае, так як птушкі ведаюць гнёзды свае, так як рыбы ведаюць віры свае, так і людзі павінны выказваць вялікую прывязанасць да сваіх мясцовасцей і сваёй краіны.

Іншай справай, якая досыць часта паяўлялася ў творчасці Скарыны, была праблема асветы грамадства і навуковай дзейнасці паасобных людзей. Скарына, несумненна, здаваў справу з недасканаласці існуючай сістэмы асветы. Марыў ён аб распаўсюджанні асветы ў найшырэйшых грамадскіх слаях. Скарына з поўнай свядомасцю не раз падкрэсліваў, што кнігі свае прызначае для асветы «людзей паспалітых», для адукацыі «малых дзетак».

Што датычыцца навуковай дзейнасці, дык Скарына залічаў яе да найбольш высакародных занятак, даступных чалавеку. Ставіў яе вышэй, чым дзейнасць дзяржаўную. Зрэшты, пры разглядзе дзяржаўных сістэм Скарына рашуча выказваўся за тымі дзяржаўнымі валадарамі, якім не чужыя навуковыя веды і якія гатовы развіваць у сваёй краіне асвету і навуку. Такім чынам, Скарына заставаўся ў палоне ідэі адукаванага манарха. Шукаючы ўзораў справядлівых сістэм, знаходзіў іх Скарына перш за ўсё ў старажытнасці, у Грэцыі. Паводле яго, старажытныя сістэмы ўласціва выкарыстоўвалі здабыткі чалавечай думкі, у тым ліку таксама і здабыткі навукі.

У сваіх разважаннях аб праве Скарына часта адклікаўся да самых ранніх этапаў у развіцці чалавецтва. Лічыў ён, што людзі залежна ад стадыі развіцця кіраваліся рознымі законамі. Законы гэтыя дзяліў ён на «прырожаныя» і «напісаныя». Прырожаныя законы былі для Скарыны законамі першабытнымі, натуральнымі, прыроднымі. Законы гэтыя чалавек унаследваў ад самога факту прыналежнасці да чалавечага роду і таму «прырожаныя» законы «запісаны ў сэрцы кожнага чалавека». Але і тут Скарына не выключае інгерэнцыі бога, які дыктуе людзям «прырожаныя» законы. Людзі павінны сцерагчы свае натуральныя схільнасці, павінны іх культываваць і развіваць, павінны «то чыніць іншым, што самім міла». Натуральныя законы, паводле Скарыны, «гэта сінонімы гармоніі, справядлівасці і дабрачыннасці.

Законы «напісаныя» — гэта прадукт чалавека, якому, апрача альтруістычных схільнасцей, могуць быць характэрнымі таксама схільнасці эгаістычныя. Нічога затым дзіўнага, што многія з «напісаных» законаў прычыніліся да распаўсюджання зла, нянавісці, несправядлівасці і насілля. З гэтай прычыны існуе патрэба навелізацыі законаў, якія павінны служыць не інтарэсам адзінкі, а толькі інтарэсам шырокіх грамадскіх слаёў.

Апрача гэтага, Скарына лічыць, што нельга нават найлепшых законаў механічна пераносіць з адной у другую краіну, бо кожны закон павінен вынікаць са спецыфікі грамадства, павінен залежаць ад «звычаяў зямлі, часу і месца».

Установай, якая заставалася ў непасрэднай сувязі з законамі, быў суд. Установе гэтай Скарына прысвяціў значную ўвагу ў сваіх разважаннях. Лічыў ён, што суд павінен быць незалежны і справядлівы. Суд не павінен паўтараць практыкі ні манархаў, ні вяльмож. Галоўным яго імкненнем павінна быць імкненне да ўсталення праўды. Пры гэтым суд павінен выказваць добразычлівыя адносіны да падсуднага.

Асноўным заклікам, выступаючым у разважаннях Скарыны, прысвечаных законам, з'яўляецца яго лозунг: «Роўная свабода ўсім». Заклік гэты быў наватарскі, адкрыўчы і прыгожы не толькі ў далёкім XVI стагоддзі, але не страціў ён сваёй актуальнасці і ў нашую эпоху.

Карэспандэнцыя з Мінска

# ◆ „МАЛЕНЬКАЕ ЦУДА" ◆



*18 кіламетраў на захад ад сталіцы Беларусі размешчаны кэмпінг «Мінскі».*

18 кіламетраў на захад ад сталіцы Беларусі ў маляўнічай мясціне размясціліся кэмпінг і матэль «Мінскі». Летам і восенню тут паветра напоўнена араматам кветак, сасновай смалы, ягад і грыбоў, якія можна знайсці тут жа проста ля палаткі.

У гэтым ціхім кутку цяністы лес, спеў птушак і бестурботная гульня вавёрак ствараюць гармонію прыгажосці прыроды.

Калі вы любіце падарожнічаць і адпачываць, дык тут вас чакае сардэчны прыём. У кэмпінгу ёсць усе неабходныя ўмовы: кагэджы, выгадныя ўчасткі са стаянкай аўтамашын ля кожнай палаткі, да вашых паслуг пошта, спартыўныя пляцоўкі, душавыя, кіназала на адкрытым паветры, магазін, дзе можна купіць прадукты і розныя сувеніры.

У рэстаране прадаюцца нацыянальныя беларускія блюды, а таксама блюды і напіткі народаў іншых краін. Калі вы жадаеце рыхгаваць ежу самі — у вашым распараджэнні кухня, абсталяваная газавымі плітамі, халадзільнікамі, сталамі. Тут жа, на кухні, у халадзільніках вы можаце захоўваць свае прадукты.

Іншаземныя турысты задаволеныя прыёмам абслугоўваючага персаналу кэмпінга. Вось, напрыклад, што гаворыць аб кэмпінгу «Мінскі» французскі турыст Ром-Кроэс: «Маленькае цуда, многа густу, элегантнасці. Ён быў для нас добрай усмешкай савецкіх людзей».

Мы коратка сказалі аб кэмпінгу. А цяпер пазнаёмімся з матэлем. Ад кэмпінга некалькі мінут хацьбы па маляўнічай лясной сцяжынцы і вы апыніцеся перад матэлем на 200 месц. Калі кэмпінг працуе з чэрвеня па верасень, дык матэль функцыянуе круглы год. Тут вам прадставяць на выбар аднамесны ці двухмесны нумар з выгадамі. У рэстаране матэля рыхтуюць блюды як беларускія, так і іншых нацыянальнасцей нашай краіны. Па жаданню вы можаце заказаць ежу ў нумар. У рэстаране ёсць банкетная зала. Як у кэмпінгу, так і ў матэлі вы маеце магчымасць заказаць міжнародную тэлефонную размову. У сувенірным кіёску вам запрапануюць нацыянальныя беларускія вырабы з ільну з прыгожай вышыўкай, з саломкі, дрэва, керамікі, скуры, шкла.

*(Працяг на стар. 6)*



*Станцыя тэхнічнага абслугоўвання ў матэлі.*

На вялікім арэале цяжка змагацца з пустазеллем уручную. З дапамогай чалавеку прыходзіць хімія. Апырскванне палёў супраць пустазелля стала абавязкам кожнага гаспадара (хацелася б лепш сказаць — дабрадзействам). Абавязак уведзены таму, што змаганне павінна быць комплекснае, а вядома, што ёсць сярод гаспадароў людзі, якім пустазелле не надта перашкаджае.




Паколькі апырскванне адбываецца ранняй вясной, калі зелле яшчэ маленькае, эфекты апырсквання найбольш відавочны перад уборкай пладоў. Вось мы на полі ў Дзянісках. Тут некалькі гадоў таму назад уведзена абавязковае апырскванне палёў. Фактычна, поле чыстае. Але здараецца, што ў некаторых месцах расце многа пустазелля, быццам бы спецыяльна яго хто засеяў. Пытаем напатканага гаспадара, у чым справа.

— Па-мойму, — гаворыць ён, — гэта несумленнасць трактарыстаў, якія апырскваюць поле. Ім часта не хочацца лішні раз прайсці, або робяць, каб хутчэй зрабіць, а ў такіх выпадках частка поля застаецца неапырсканай, а адсюль і асот на полі.

Несумленнасць трактарыстаў відаць і ў іншым. На вёсках ёсць землі, уладальнікі якіх жывуць часта не толькі на тэрыторыі іншай ГРН, але нават павета. Ад такога гаспадара, калі і апырскаюць яму поле, цяжка «сцягнуць» заплату. Такіх палёў яны найчасцей не апырскваюць. А вядома, што поле з пакінутым пустазеллем, ці нават адна купка асоту на наступны год зноў расплодзіць шкодныя расліны.

Часта гаспадары пытаюць, ці трэба трактарам апырскваць поле, калі яно чыстае. Зразумела, што не. Можа не так часта, але здараюцца выпадкі, што асот з аўса ці пшаніцы людзі вырываюць уручную. Напэўна гэта карысней, аднак пазволіць на гэта могуць адзінкі.

Не маюць рацыі тыя трактарысты, якія лічаць, што калі апырскаюць поле невядомага ўладальніка, дык тады не будзе каму заплаціць за паслугу. У такіх выпадках паслугу аплочвае рада нарадовая, якая мае спецыяльны фонд на гэта.

У барацьбе з пустазеллем важна тое, каб, знішчаючы яго, ліквідаваць адначасова рассейванне яго ў наступным годзе. А вядома, што пяць карчоў насення асоту можа засеяць не адно поле. (ак)

*(Працяг са стар. 3)*

# ПАСАГ КАРАЛЕВЫ

Такіх, як вышэй прыведзеныя, недахопаў у кнізе М. Космана ёсць болей. Яны напэўна памяншаюць вартасць працы, але не з'яўляюцца дамінуючымі. Таму гэтая кніга заслугоўвае на ўвагу. Яна карысная для азнаямлення з адным важным перыядам у багатай гісторыі Цэнтральнай Еўропы. (мг)

---

1. Marceli Kosman, „Władysław Jagiełło", Książka i Wiedza, Варшава, 1968 г., стар. 291, Цана 10 зл.

2. Jerzy Ochmański, „Historia Litwy", Ossolineum, Wrocław — Warszawa —. Kraków, 1967.

*Адрэж па лініі, назначанай пункцірам, зрабі дзіркі ў месцы, вызначаным кружкамі і нанізы старонкі на дроцік або шнурочак.*

● БІБЛІЯТЭЧКА „Нівы" ● ВАСІЛЬ БЫКАЎ ● ПРАКЛЯТАЯ ВЫШЫНЯ ●



Зрэшты, яны атрымалі свайго фельдфебеля і цяпер, мусіць, радаваліся з тае прычыны: усё ж не часта гэтак здараецца на вайне. А нам вось, мяркуючы па ўсім, радасці было няммога.

Я гэта зразумеў яшчэ да таго, як нампаліт прыклыпаў да адхона. Яшчэ зводдаль на яго твары можна было прачытаць крайнюю меру клопату, нават абурэння, зусім відавочна — ён быў узрушаны, што ўвогуле з ім было рэдка. Дужа кульгаючы, Грыневіч з-пад каскі раз-пораз кідаў на нас гняўлівыя позіркі. І чым ён падыходзіў бліжэй, тым усё болей хмурыўся Ананьеў. Урэшце нампаліт, яшчэ не пераскочыўшы канавы, зводдаль загаманіў тонам, які не пакідаў ніякага сумнення ў тым, што сталася няшчасце.

— Ты здурэў? Ці напіўся? Што ты нарабіў?

— А што? — сказаў Ананьеў знарок абыякава, але ўсім стала зразумела, што ён і сам выдатна ведае што.

— Як — што? Ён яшчэ пытаецца! Абмен устроіў! Ты ведаеш, чым гэта пахне?

— Чым?

Грыневіч спыніўся ўнізе і развёў рукамі.

— Я проста не знаю! Ён яшчэ пытаецца, чым? — ледзьве не з роспаччу, аж трасучыся, гаварыў нампаліт. На адхон ён не палез, а таптаўся на мокрым травяністым дзірване пад насыпам. Камандзір роты вяла махнуў рукой, з фальшывай бесклапотнасцю адкінуўся на локаць, але зараз жа сеў зноў.

— Саўсім здурнець трэба. Ты загад ведаеш?

— Пайшоў ты са сваім загадам! — не дужа рашуча крыкнуў Ананьеў. — У мяне рота. Бачыш? А вунь — немцы!

Грыневіч уважліва, знізу ўгору, паглядзеў на камроты, той раптам адвярнуўся і высунуў з-за насыпу галаў. У ланцугу зноў прыкметна насцярожыліся, некаторыя аўтаматчыкі, пакінуўшы капаць, пачалі прыслухоўвацца да сваркі. Я першы раз бачыў, як Ананьеў дазваляў намесніку так абыходзіцца з сабой, — гэта зусім было на яго не падобна. Падобна было, што ён і сам адчуваў, што дзесьці даў маху, парушыў нейкі строгі загад, цяпер перажываў, і толькі характар не дазваляў яму пагадзіцца з намеснікам або прамаўчаць.

З намаганнем адолеўшы круцізну, Грыневіч узлез на насып і спыніўся непадалёк ад ротнага.

— Ну якога чорта! — сказаў ён цішэй. — Было б каго, а то — Чумака! З-за Чумака такога гада адпусціў... Увайшоў у кантакт з праціўнікам! Трэба ж надумацца!

Ананьеў на чвэрць абароту павярнуў да яго свой твар.

— А што, Чумак — не чалавек, па-твойму?

— Не пра тое размова. Чалавек. Ды які?

— Савецкі, — сказаў Ананьеў. — Калхознік! Ды што ж яго на расцярзанне врагам!

Грыневіч паморшчыўся.

— Давай без агульных слоў. Давай канкрэтна.

— Твае ж словы. Ты ж імі байцам мараль талкаеш.



Грыневіч неспакойна круціўся на адхоне сюды-туды, крэкаў, як ад зубнога болю, нешта думаў і, мабыць, нічога суцяшальнага надумаць не мог. Ананьеў жа пасля свайго грознага выпаду стаў нейкі на дзіва спакойны, нават абыякавы. І толькі моцна сцятыя крутыя пашчэнкі сведчылі, з якім намаганнем яму давалася гэта абыякавасць.

З самага пачатку сваркі было відавочна, што камроты ўступаў дасведчанай логіцы Грыневіча, бо, мабыць, сам таго не жадаючы, нешта зрабіў не так — на авось, не падумаўшы. І ўсё ж я не мог сцяміць, як тут было зрабіць іначай? Няўжо лепш пакінуць Чумака ў палоне, абы толькі не выпусціць іхняга обер-фельдфебеля? Хіба што на гэты конт былі адпаведныя загады, і тады ўжо, вядома, нічога не скажаш: загады ў арміі не абмяркоўваюцца. Тады выходзіла, што ротны зрабіў памылку. Але не лішне было зразумець і самога ротнага, якому недарэка Чумак пры ўсёй ягонай нязладнасці быў усё ж свой, падначалены баец, цалкам залежны ад волі і ўлады камандзіра роты. Тады як было адправіць яго на яўную пагібель, хоць і ўзяўшы ў палон такога, відаць па ўсім, заядлага фашыста, як гэты фельдфебель.

Не ведаю, як бы зрабіў я на месцы Ананьева ў падобных абставінах, але цяпер зрабіць як іначай я проста не бачыў магчымасці. Мусіць і Ванін у такім разе не аддаў бы свайго байца на пагібель — нават, безумоўна, Ванін зрабіў бы ўсё, каб уратаваць яго. Піліпенка, можа, зрабіў бы інакш: гэты ў адносінах да другіх быў яўны законнік. Але Піліпенку можна было зразумець: у пачатку вайны ён ненадоўга трапіў у палон да немцаў і паспытаў там гора, таму старшыну важней за лёс Чумака было не ўпусціць палоннага. Але ж Грыневіч, здаецца, не меў асабістых рахункаў да немцаў, у палоне і акружэнні не быў, а да Чумака, як і да ўсіх іншых байцоў у роце, меў тыя ж самыя дачыненні, што і Ананьеў. Чаму ж тады ён непакоіўся болей за камандзіра роты?

— Чорт бы яго ўзяў! — з пакутніцкім выразам на твары прагаварыў нампаліт. — Адкуль яго прыгнала на нашы галовы, гэтага Чумака... Ды і фрыца! Хто яго хоць у палон узяў?

— Ванін узяў, — сказаў Ананьеў.

— Во, яшчэ і Ванін! — успомніў Грыневіч. — Яшчэ адна гісторыя! Што пра гэта напісаць?

— А што пісаць? Загінуў. Так і напісаць, — спакойна зазначыў камандзір роты.

— Ну да! А раптам у палоне?

— Не дуры, камісар! — стараючыся як мага спакайней. сказаў Ананьеў і пацягнуўся за пляшкай. — Не шчыруй у пекле болей за чорта. Такія, як Ванін, у палон не здаюцца.

— Усё можа быць... — уздыхнуў Грыневіч.

— Ні чарта не можа. Я Ваніна ведаю.

Камандзір роты адвінціў пляшку і наводмаш працягнуў нампаліту.

— Будзеш?

66.

— Што я талкаю! — павысіў голас нампаліт. — Я палітработу вяду. А ты за адзін раз усё насмарку.

Ананьеў зверавата нахмурыўся, шэрыя вочы яго пыхнулі глыбінным агнём.

— А ваяваць з кім? — крыкнуў ён, зусім ужо зрываючыся. — З кім мне ваяваць — ты падумаў?!

Ён спружыніста ўскочыў на калені і рукою шырока ўзмахнуў над насыпам.

— Во бачыў: узводы, — па дванаццаць чалавек! А вунь вышыня, бачыў! Раз не ўдалося, думаеш усё? Ге, памыляешся! Прыедзе Сырамятнікаў, загадае ўзяць. Кім браць? Га?

Ён у запале адным духам пракрычаў гэта і сціх. Аўтаматчыкі ў ланцугу, пакінуўшы працу, з цікавасцю і трывогай пазіралі сюды. У мяне балюча сцялася сэрца — не хапала яшчэ тае сваркі.

— Гэта не апраўданне, — незгаворліва сказаў нампаліт. — Гэтага Чумака цяпер на кіламетр нельга падпускаць да роты. А ты яго ва ўзвод накіраваў...

Памалу спакайнеючы пасля нервовата выбуху, Ананьеў сеў на адхон. Нівідушчы позірк яго спыніўся на вышыні.

— І хай будзе.

— Як гэта — хай будзе! — ляпнуў сябе па калене Грыневіч. Цяпер ускіпеў ён. — Ты што — малы? Ты ведаеш, чым гэта скончыцца?

— Чым бы ні скончылася.

Цяпер ён ужо быў ранейшы, добра знаёмы ўсім нам Ананьеў, які не ўступаў, хоць і памыляўся і зрабіў дзе не так. Шляху назад ён не прызнаваў — як бы там ні было, ён ішоў напралом. Праўда, не заўжды гэта канчалася дабром, часцей наадварот. Але тут ужо ўлады над ім у нас не было.

Настала няпэўная пакутная паўза. Камандзір роты двума ўдарамі бота выбіў на дзірване ямку, каб ямчэй было ўпірацца, бокам лёг на зваляную мокрую палу шыняля і пачаў засцярожана глядзець на вышыню. Ушчэнт апанураны Грыневіч нерухома сядзеў побач, і ў выразе ягонага твару з запалымі шчокамі была нічым не суцешная, вялікая самота. Я не мог заглушыць у сабе вострае прыкрасці ад адчування яшчэ большай бяды, якая няўхільна насоўвалася і з якой, мяркуючы па ўсім, справіцца не было магчымасці.

Мусіць, гэта разумеў і Ананьеў, інакш бы ён проста прагнаў лейтэнанта, калі б той наважыўся дакараць яго, ды яшчэ б добра аблаяў. Але цяпер і сам камандзір роты пакутна, амаль вінавата, маўчаў.

Зводдаль на адхоне падняў галаву Шапа.

— Таварыш лейтэнант, нашто так? Шкада ж Чумака...

—А табе сябе не шкада? — са стрыманай злосцю падхапіў Грыневіч. — Ты да немцаў хадзіў?

— Ну — я... Дык і мяне на цугундзер? Калі ласка! Хоць зараз.

— А ну, маўчы! — строга папікнуў яго Ананьеў. — Не твая цялячая справа.

68.

Грыневіч момант павагаўся.

— А давай! З гора...

Ён трохі выпіў, паморшчыўся. Пасля добра хлебануў Ананьеў.

— Нарабіў ты, нечага сказаць, — ужо болей міралюбіва зазначыў нампаліт. — Як цяпер выкруціцца?

Ананьеў ямчэй уладкаваўся на адхоне і ціха сказаў:

— Няма чаго выкручвацца. Маўчы. Нас тут ніхто не бачыў.

Са спазнелай засцярогай камандзір роты зірнуў на мяне, на Шапу, але тут жа зрабіў выгляд, што ад нас і не тоіцца. Грыневіч пакутна выдыхнуў, затым устаў і паглядзеў на вышыню.

— Ну што ж, трэба ісці. Сюды фрыцы пусцілі. А адсюль...

— А вы трошкі вышэй, — паказаў Шапа. — Во, пад насыпам. А там павернеце. Так схоўней. За пагорачкам.

Грыневіч моўчкі паслухаўся і пакульгікаў уздоўж ланцуга над канавай.

«Можа як абыдзецца», — падумаў я.

Але — не абышлося.

Не адышоўшы яшчэ і на дваццаць крокаў, Грыневіч раптам спыніўся.

— А Цвяткоў дзе?

— Параненых павёў, — сказаў нехта ў ланцугу.

— Даўно?

— Ды толькі што! Як вы з камандзірам гаварылі.

Нампаліт трывожна настырчыўся, крута павярнуўся і ледзьве не бягом, дужа кульгаючы, зноў скіраваў да Ананьева.

— Чуў?

— Што? — запытаў Ананьеў, і тут ужо было зразумела, што ён не прыкідваўся, а і сапраўды не разумеў, што ўстрывожыла намесніка.

— Цвяткоў змыўся!

— Параненых павёў. Я загадаў. А што?

Грыневіч спыніўся пад насыпам.

— Наіўны чалавек! Каму ты загадаў?

— Санінструктару. А каму ж яшчэ!

— Санінструктару!

Ананьеў на адхоне зверавата нахмурыўся, агідна вылаяўся і вобзем ударыў, мабыць, ужо апусцелую пляшку. Падскочыўшы, тая плоска ляпнулася ў гразь за канавай.

— Пайшлі яны к чортавай матары! Паняў? — крыкнуў ён, устаў і зноў сеў.

Грыневіч на гэты раз змоўчаў. На ягоным твары з'явілася нешта новае, нешта чужавата-абыякавае, халодны позірк намесніка скіраваўся ўдалячынь.

— Знаеш, Ананьеў, — пасля хвіліны маўчання сказаў ён неяк нядобра паспакайнелым голасам. — Знаеш, Ананьеў! Расхлёбвайся ты сам. Сам заварыў, сам і хлябай. Я табе не памочнік.

Ананьеў узняў голаў.

— Што — змываешся?

(Працяг са стар. 5)

# „МАЛЕНЬКАЕ ЦУДА"



*Катэджы кэмпінга.*

Побач з матэлем знаходзяцца адкрытыя стаянкі і боксы для аўтамашын, станцыя тэхнічнага абслугоўвання аўтамабіляў. Кругласутачна працуе аўтазаправачная станцыя.

Непадалёку ад матэля раскінулася залітае праменнямі сонца вадасховішча куды мінчане прыязджаюць на адпачынак у канцы тыдня. А спераду шаша ў бок Мінска. «Інтурыст» штодзённа арганізуе экскурсіі з аглядам славутых мясцін горада.

Заказаць экскурсію, білеты ў тэатры і музеі Мінска вы зможаце ў бюро абслугоўвання кэмпінга і матэля.

Пабыўшы тут, вы адчуеце традыцыйную беларускую гасціннасць.

Сардэчна запрашаем!



*Турысты з Англіі ў кэмпінгу.*



*Рэстаран кэмпінга.*

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### ЯК САЛІЦЬ АГУРКІ?

У папярэднім нумары мы споўнілі толькі адну просьбу нашага чытача з Клюковіч (Сямяціцкі павет), а менавіта расказалі аб тым, як ставіць на зіму капусту. Сёння спаўняем яго другую просьбу і пішам, як засаліць агуркі на зіму.

Ставячы агуркі на зіму, выбіраем агуркі здаровыя, сярэдняй велічыні, не зусім спелыя — зялёныя. Агуркі можна ставіць у бочках з цвёрдага несмалістага дрэва, у каменным посудзе або ў слоіках. Посуд гэты павінен быць абавязкова добра вымыты і выпараны.

Агуркі перад засолкай неабходна старанна памыць, абсушыць (не абразаць канцоў і не наколваць). Пасля гэтага скласці іх у прызначаны посуд, на дно якога, а таксама ў сярэдзіне і на паверхні агуркоў палажыць прыправы (галінкі ўкропу, карэнні хрэну, парэзаныя на палоскі, дубовае, вішнёвае лісцё, або лісцё чорных парэчак, часнок, гарчыцу). Агуркоў трэба класці ў посуд столькі, каб не было запоўна.

Далей агуркі неабходна заліць халоднай салянкай, падрыхтаванай з кіпячонай вады і солі (беручы на 1 літр вады 50 грамаў солі). Агуркі павінны быць цалкам пакрытыя салянкай.

На паверхні агуркоў кладуць вывараны кавалак палатна, а пасля вымытае і выпаранае дэнка, якое, у сваю чаргу, прыціскаюць чыстым, не крышачымся каменем.

Посуд з агуркамі ставяць на 2—3 дні ў цёплым памяшканні (пры тэмпературы 18—20°С), а пасля выносяць ў склеп, дзе тэмпература не павінна быць вышэйшая чым 8—10°С. У час перахоўвання агуркі заўсёды павінны быць пакрыты сокам. Калі зверху будзе збірацца плесень, неабходна яе знімаць, дэнка за кожным разам трэба мыць і выпарваць, а палатно выварваць.

Такім чынам, падалі мы рэцэпты на два найбольш распаўсюджаныя віды гароднінных запасаў на зіму: на кіслую капусту і кіслыя агуркі. Агуркі можна яшчэ рабіць на зіму многімі іншымі спосабамі: напрыклад, агуркі марынаваныя вострыя (карнішоны), агуркі кансерваваныя, пікле з агуркоў. Можна таксама рабіць розныя салаты на зіму і з іншай гародніны. У сувязі з тым, што распачаўся якраз сезон падрыхтоўкі на зіму розных салатаў і марынадаў, мы пастараемся ў наступных нумарах падаць некалькі цікавейшых рэцэптаў, якія, маем надзею, прыдадуцца нашым спрытным гаспадыням і задаволяць іх патрабавальных мужоў.

*Гаспадыня*

# ЗЛАВЕСНАЯ ТАЙНА ВЕРМАХТА



Францыя пачатку 1944 года, горад Мезон-Лафіт. Паблізу яго — палац Атэй. На ўказальніку ля варот напісана: «Арганізацыя Тодт» (так называлася гітлераўская будаўнічая арганізацыя). Але гэта толькі маскіроўка. Замаскіраванымі былі і жыхары палаца. Хаця яны з'яўляліся толькі ў цывільным, гэта былі кадравыя афіцэры люфтвафе і артылерыі.

Аднойчы раніцай, вясной 1944 г., шасцёра з іх чакалі ля галоўнага ўваходу прыбыцця «важнай асобы». Нягледзячы на тое, што вакол не было нікога з пабочных, усе размаўлялі шэптам. Часцей за ўсё ў размове паўтараліся нямецкія словы Kirsehkern (вішнёвая костачка) і Rumpelkammer (камора). У гэты час вельмі нямногія ведалі, што скрывалася за гэтымі кодавымі абазначэннямі, уведзенымі па асабістаму загаду Гітлера. А павінны былі яны скрываць галоўнае: «цудзброю» вермахта — «Фау». «Фюрэр» задумаў знішчыць ім Лондан і Нью-Йорк!

Шасцёра штабс-афіцэраў таямнічага палка, які не меў ні нумару ні назвы (у адрозненне, напрыклад, ад палка «Брандэнбург» начальніка ваеннай разведкі адмірала Канарыса), чакалі ў тую раніцу з'яўлення свайго вышэйшага камандзіра — генерала артылерыі Вальтэра фон Акстгельма.

У аднаго з шасцярых у бумажніку знаходзілася даволі дзіўнае, на першы погляд, пасведчанне, выдадзенае яму незадоўга да гэтага дня, а іменна 29 студзеня 1944 г., генералам артылерыі Гейнеманам. У ім гаварылася:

«Палкоўнік Мартын Вольф, які нарадзіўся 6 чэрвеня 1897 г. у Растоку, мае права насіць форму любога роду войск вермахта».

Не менш дзіўна, што ў гэтага чалавека былі дакументы на розныя афіцэрскія чыны, а таксама на розныя імёны. У адным з іх, напрыклад, ён называўся Міхаэлем Вагнерам. З лета 1943 г. ён мог фігураваць пад любым імем, толькі не пад сваім сапраўдным — Макс Вахтэль. Загад гэты быў аддадзены ў той дзень, калі нямецкая контрразведка з паведамленняў англійскага радыё даведалася, чым іменна займаецца палкоўнік Вахтэль.

Перанясёмся прыкладна на год назад. Вясною 1943 г. Вахтэль, тады яшчэ падпалкоўнік, атрымаў загад з'явіцца ў штаб свайго начальніка генерала Акстгельма ў Берліне.

— Мой дарагі Вахтэль, — пачаў генерал, — ці чулі вы калі-небудзь аб тым, што такое Kirsehkern?

— Не, пан генерал, калі зразумела, гутарка ідзе аб яго пераносным значэнні.

— А ці ведаеце вы, што тоіцца за кодавым абазначэннем «Фі—103»?

— Не маю ўяўлення, пан генерал.

Акстгельм устаў, наліў у чаркі каньяк і прапанаваў выпіць за поспех задуманай аперацыі «Вішнёвая костачка», якая ат-

# ТРЫБУНА чытачоў

## ПЕРАДАВЫ ЧЫТАЧ «НІВЫ»

Ганна Калішэвіч з вёскі Відава ў Бельскім павеце з'яўляецца сапраўдным чытачом «Нівы» і адначасова яе архівістам. У яе перахоўваецца «Ніва» нават з 1956 года.

— Кожную «Ніву» я чытаю дакладна, — гаворыць Ганна Калішэвіч, — ад першай старонкі да восьмай.

Вось каб такіх чытачоў нам як найбольш.

*Л. Леанюк*

## ЛЗС У ОРЛІ

Вельмі актыўна дзейнічае гурток ЛЗС у Орлі. Налічвае каля 50 членаў. Узначальвае яго і апякуецца асабіста Алік Чыквін. ЛЗС мае добрую спартыўную пляцоўку, многа спартыўных прыладаў. Спартсмены з Орлі вядомыя ў Бельскім павеце і ваяводстве дзякуючы сваім спартыўным дасягненням. ГРН у Орлі прызначыла ЛЗС-у 10 тысяч злотых на спартыўныя гульні.

*Ваня Кірызюк*

## КАРЫСТАЕМСЯ КРЭДЫТАМІ

Як праінфармаваў нас кіраўнік Гайнаўскага аддзела ПКО Пётр Пяткевіч, у мінулым годзе на працягу апошніх васьмі месяцаў аддзел ПКО ў Гайнаўцы даў крэдыты на суму 7.481.745 злотых, у тым ліку на мэблю — 1515 тысяч злотых, на адзенне — 1289 тысяч злотых, на тэлевізары і радыёпрыёмнікі — 1357 тысяч злотых, на халадзільнікі і пральныя машыны, гадзіннікі і г.д. — 636 тысяч злотых. Ёсць вялікае запатрабаванне на крэдыты на будову дамоў або рамонты. Аддзел ПКО мае на гэта толькі 1 мільён злотых. Варта дадаць, што Гайнаўскі аддзел ПКО мае 20 аенцыйных пунктаў, якія даюць крэдыты. Найлепшымі аенцыйнымі пунктамі з'яўляюцца пункты пры ГС-ах у Белавежы, Кляшчэлях, Нарве, Нараўцы, Чаромсе, а таксама пры «Зурце» ў Гайнаўцы. (яц)



*Павятовая амбулаторыя ў Гайнаўцы.*
*Фота: Я. Цялушэцкі*

## КЛУБ ЗАПРАШАЕ

У Плёсках мужчыны падзяліліся на дзве групы. Адны свабодны час праводзяць у клубе, а другія — у краме: паўсядаюцца на бочках ад піва і толькі перашкаджаюць у працы прадаўшчыку. А як ёсць піва, дык старых сабутэльнікаў мусяць з крамы выводзіць жонкі або дзеці.

Варта тут прыгадаць, што замест на бочках, лепш культурна правесці час у клубе.

Клуб запрашае.

*Чытач*




*Дарагое Сэрцайка!*

Мне 16 год і жыву я на вёсцы, бо не хацелася мне вучыцца. Цяпер я зайздрошчу сваім сяброўкам, якія вучацца ў горадзе, бо хоць заняткаў у іх многа, затое здабываюць яны веды. Калі збярэмся ў кампаніі, часта дзяўчаты і хлопцы вядуць цікавыя дыскусіі, а я (ёсць яшчэ і іншыя сяброўкі, якія не вучацца) маўчу. Перад чужымі хлопцамі (з іншых вёсак) мне сорамна, што я нічога не ведаю. Таму я пастанавіла паступіць у СПР. Але я пішу ў іншай справе. А вось: у мяне ёсць сяброўка, якую я лічыла вельмі блізкай мне. Я ёй сказала адзін сакрэт, вельмі важны сакрэт, і прасіла яе нікому не гаварыць. Праз нейкі час аказалася, што сяброўка «здрадзіла» і асоба, якой датычыўся гэты сакрэт, даведалася аб усім. Мала таго, выйшла так, што я ўсяму вінавата.

Што мне, дарагое Сэрцайка, цяпер зрабіць? Парай.

*Вера*
*з Сямяціцкага павета*

*Вера!* Мая парада — больш не пляткаваць. Іншага выйсця не бачу, бо перад кім жа ты будзеш тлумачыцца, калі ў сапраўднасці ты пераказала «сакрэт» сваёй сяброўцы, якая відаць, пераказала ў «сакрэце» сваёй сяброўцы і так далей — дайшло аж да асобы, якой датычыўся ваш «сакрэт». Сакрэт павінен сапраўды быць сакрэтам, якога не трэба пераказваць найлепшай сяброўцы і нікому іншаму. І толькі тады не застанешся вінаватай.

Вельмі добра, што ты пастанавіла вучыцца, бо заняткі, якія цябе чакаюць, не дазволяць займацца «сакрэтамі», а дапамогуць таксама прымаць удзел у дыскусіях, якія вы праводзіце.

*Жадаю поспехаў*
*Сэрцайка*

## БУДЗЕ НОВАЯ

У вёсцы Парцава (Бельскі павет) ужо даўно існуе малачарня. Знаходзіцца яна ў цесным памяшканні каля крамы. Гэта малачарня абслугоўвае не толькі сваю вёску, прывозяць сюды таксама малако сяляне з вёскі Волька.

У гэтым годзе пачалася пабудова новай малачарні. Будзе яна абшырная і з усімі выгадамі.

*Я. П. з Парцава*



*Выступае школьны хор з Масева на фэстыне БГКТ у Семяноўцы.* *Фота В. Бура*

## § Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ:

Я жыву ў доміку ўжо дваццаць год і плачу ўласніку гэтага доміка чынш 140 зл., установлены жыллёвым аддзелам некалькі гадоў таму назад. Уласнік дома правёў рамонт даху і дадаткова патрабуе ад мяне 4.500 зл. ды пагражае судом. Ён гаворыць, што ёсць такі закон, паводле якога, калі чынш не пакрывае коштаў эксплуатацыі дома, уласнік можа патрабаваць ад кватаранта даплаты. Ці гэта патрабаванне згодна з законам? Дом выключаны з-пад публічнай жыллёвай гаспадаркі.

АДКАЗ:

Паводле законаў, якія абавязвалі да 1965 года, стаўкі чыншу былі амаль што сімвалічныя і не маглі пакрываць коштаў эксплуатацыі кватэры. У такой сітуацыі не можна было вымагаць, каб уласнік дома пакрываў кошты напраў, звязаныя з утрыманнем дома не з чыншу, якога на гэта не хапала, а з уласных даходаў. Таму было ўстаноўлена, што наймальнік, які карыстаецца з памяшкання, павінен незалежна ад заплаты чыншу ўдзельнічаць у пакрыванні коштаў утрымання дома ў стане здатным да карыстання.

У 1965 годзе ўведзена новае жыллёвае права, а распараджэннем Рады Міністраў устаноўлены новыя правілы адносна чыншу, якія значна падвышаны.

Распараджэнне было выдадзена з мэтай папраўы ўтрымання жыллёвых рэсурсаў у належным стане і было прызначана на гэта больш фінансавых сродкаў. Гэта ўстава тлумачыцца такім спосабам, што апрача чыншу наймальнік памяшкання не абавязаны пакрываць коштаў эксплуатацыі дома акрамя тых бягучых рамонтаў, якімі жыллёвае права выразна абцяжвае наймальніка.

рымала пазней кодавую назву «Румпелькамер». У канцы гутаркі генерал папярэдзіў падпалкоўніка:

— Пакінуўшы мой кабінет, вы павінны забыць усё пачутае тут. Улічыце: гутарка ідзе аб вельмі важнай сакрэтнай аперацыі гэтай вайны.

Аб чым жа ішла гутарка?

Вермахт працаваў над стварэннем ракетнай зброі. Яна павінна была абстрэльваць Лондан. Агрэгаты пастаўляліся фірмамі «Фізелер» і «Аргус» і мелі падабенства з беспілотным самалётам, валодаючы здольнасцю перакідваць цераз Ламанш снарад на адлегласць у 250 кіламетраў. Першае выпрабаванне адбылося ў снежні 1942 г. Праз месяц генерал Акстгельм быў сведкай другога эксперыменту.

— Хочаце, падпалкоўнік, стаць камандзірам спецыяльнага палка і арганізатарам практычнага ажыццяўлення плана фюрэра? — спытаў ён у Вахтэля.

Вахтэль адразу ж згадзіўся, «з радасцю», як піша ў сваіх мемуарах. Выбар Акстгельма быў невыпадковы. Былы гітлераўскі генерал, які жыве цяпер у Траўнштэйне, у Верхняй Баварыі, на пытанне журналіста, чаму ён выбраў іменна Вахтэля, адказаў:

— Я ведаў Вахтэля як храбрага салдата і выдатнага арганізатара.

Вернемся да пытання, чаму Макс Вахтэль павінен быў скрываць сваё імя. 28 ліпеня 1943 г. радыст самалёта «Хейнкель—III», што ляцеў у Брусель, атрымаў з Парыжа, які тады быў акупіраваны немцамі, загад генерала Колера, начальніка штаба 3-га паветранага флоту: «Палкоўніку Вахтэлю. Тэрмінова прызямліцеся на аэрадроме Ле-Буржэ». Пасля пасадкі Вахтэль даведаўся, што з Лондана перахоплен перададзены па радыё загад усім англійскім лётчыкам у што б там ні стала знішчыць яго самалёт. Гэта азначала, што англічане добра ведалі, хто знаходзіцца ў ім...

У той жа дзень Макс Вахтэль знік, замест яго на свет божы з'явіўся Мартын Вольф, дарэчы, і знешне іншы — з барodкай і бакенбардамі. На спецыяльна скліканай нарадзе ён сказаў:

— Панове! Я, палкоўнік Мартын Вольф, змяніў вашага ранейшага камандзіра Вахтэля. Ён прызначан на новую пасаду.

*(Працяг будзе)*



*Жніво.*
*Фота: Я. Цялушэцкі*

## ПОП ПАМАГАЕ МОЛАДЗІ

Пярвічная партыйная арганізацыя ў Крывяцічах актыўна памагае моладзі. Дапамога была ў будове спартыўнай пляцоўкі. Члены ПОП таксама арганізавалі супольна з моладдзю чын пры агароджванні мясцовай святліцы. Пастаўлены новы плот. Многія з членаў, такія як Іван Клін, Пятро Будка, Сяргей Дружба, дбаюць аб утрыманні парадку ў святліцы, сама клубовая Оля Дружба, як адзіны чалавек, які вядзе клуб «Рух» і святліцу, не заўсёды зможа, напрыклад, «вывесці» падхмеленага півам ці гарэлкаю з святліцы.

*Ваня Кірызюк*

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Prywatna burza" (czeski), 10—11. „Otello z prowincji" (węg.), 12—13. „Napad stulecia" (angl.), 14—15.

**Нараўка**

„Alba Regia" (węgierski), „Dziki pies Dingo" (radz.), 11—15.

**Нарва**

„Twarz anioła" (polski), „Kosmos wzywa" (radz.), 11—15.

**Чыжы**

„Ostatnie wakacje" (radz.), „Znaki na drodze" (polski), 11—15.

**Дубічы Царкоўныя**

„Nieśmiertelni Flip i Flap" (USA), „Wielka miłość" (franc.), 11—15.

**Арэшкава**

„Dziura w ziemi" (polski), „Nie wspominać o przyczynie śmierci" (jugosł.), 11—15.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Jarzębina czerwona" (polski), „Los człowieka" (radz.), 11—18.

**Орля**

„Ucieczka w kajdanach" (USA), „Wkrótce będzie koniec świata" (jugosł.), 11—15.

**Райск**

„Album" (polski), „Drugi tor" (NRD), 11—15.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Romanca na trąbkę" (czeski), 10—11. „Na tropach szpiega" (radziecki), 12—13. „Po kruchym lodzie" (radz.), 14—15.

**Янаў**

„Południk zero" (polski), 11—15.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Noc Iguany" (USA), 10—11. „Ranny w lesie" (polski), 12—13. „Pejzaż z bohaterem" (polski), 14—15.

**Мельнік**

„Niepokoje wychowanka Torlessa" (NRF), 10—11. „Wilcze echa" (polski), 12—13. „Mały" (polski), 14—15.

**Мілейчыцы**

„Brzoza" (jugosł.), 10—11. „Tajemnica Kaliakry" (bułg.), 12—13. „Krajobraz po bitwie" (polski), 14—15.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Ambasadorowie nie mordują" (NRD), „Skąpani w ogniu" (polski), 11—15.

**Новы Двор**

„Nad jeziorem" (radz.), „Szkice warszawskie" (polski), 11—15.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wrzystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 5.673 E-3

